www.nv-online.info

№ 31 (4078)

22 красавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Только спокойствие!

"Я вам покажу, что такое управление государством!" – эмоционально пообещал присутствующим в Верховной Раде Украины Владимир Гройсман и был утвержден главой Кабинета министров этой страны.

Говорил и присутствующему в зале президенту Петру Порошенко, и бывшему премьеру Юлии Тимошенко, и своим союзникам, и своим противникам. Дальше можно копаться в биографии Гройсмана и разбираться, чей он ставленник, откуда вышел и куда придет, но главное не это. Главное, что продемонстрировал новый украинский премьер, – это амбиции, желание доказать, показать, стать.

Для нашей страны – немыслимая смелость! Для любого представителя белорусской системы государственного управления – невозможная крамола, бунт на грани сумасшествия. Просто страшно представить, чтобы кто-то из наших министров сказал Александру Лукашенко: "Я вам покажу, как надо управлять государством..." Это была бы сенсация! Можно не сомневаться, что после такого зарвавшийся министр вмиг стал бы для государственной системы злейшим врагом – большим, чем вся оппозиция, вместе взятая.

У нас ни у кого даже мыслей таких быть не должно, даже намеков. В Беларуси подобные амбиции – под строжайшим запретом. Но тогда чего мы ждем от своих министров? Чего от них хотим, если их главная задача – не высовываться?

Амбиции – это важная штука, способная вывести человека из зоны комфорта в режим работы на результат. В топку этого двигателя можно бросать деньги, а можно – здоровые амбиции. Астрономических зарплат чиновникам наше государство предложить не может, амбиции не поощряет и даже запрещает, за счет чего тогда двигаться вперед? Получается, что у белорусской государственной машины двигатель вообще не работает: нет топлива. Куда же мы на такой машине доедем?..

Кто-то скажет, что Украина, потрясаемая революциями, – плохой пример. У нас, мол, министры тихие, спокойные, знают свое место, зато и страну не лихорадит.

Да, Украина – пример непростой. Но очень показательный.

Что в Беларуси было сделано за последние полтора года? Повышены цены, тарифы, пенсионный возраст; уменьшены зарплаты, пенсии, рабочие дни на предприятиях да и количество работающих предприятий, впрочем, тоже. Еще можно вспомнить отвлекающий маневр – решение о проведении деноминации: новые деньги давно были напечатаны, их срочно надо доставать из хранилищ, а то сгниют.

Что за эти же полтора года сделано в Украине?

Создана армия, которой не было. Создана новая полиция, которой не было. Началась люстрация чиновников, погрязших в коррупции, – тяжело, сложно, но процесс идет: повсеместно выгоняют, отстраняют, отдирают от государственной кормушки с кровью. Заработала принципиально новая система государственных тендеров, например, закупку лекарств доверили независимым международным фондам, одним махом нейтрализовав свою мафию от здравоохранения. Наконец, вопреки ожиданиям всех недругов, пессимистов и злопыхателей, Украина соскочила с российской газовой трубы, наладив поставки газа из Норвегии. И не будем забывать, что все это – на фоне войны. На фоне огромных финансовых трат на защиту своей страны и оборону.

Один и тот же период времени. Но сколько сделали они – и что за этот период сделали мы?! В Украине – борьба амбиций, страсти кипят, страна живет. Яркие лидеры, яркие проекты, горячие споры, стычки, поражения, победы. Но страна уверенно идет к своей европейской мечте.

А мы?! Что сделали мы? Передвигали с места на место старые советские идеи, кадры, станки и боялись перемен. Боялись здоровых амбиций. Боялись огня в глазах.

Мы вообще забыли, как он выглядит – огонь в глазах политиков. Мы забыли, как выглядит хороший кураж, желание быть неспокойным, делать этот мир лучше.

В понедельник Александр Лукашенко вновь собрал министров, вновь говорил сурово, вновь обещал всех уволить. Первый квартал провален, второй тоже не обещает ничего хорошего. И прошлый год провален, и позапрошлый, и минувшая пятилетка... Министры смирно сидели, сопели в две ноздри, что-то записывали... Да лучше бы они там, прямо за президентским столом, подрались, лучше бы за грудки друг друга хватали, выясняя, с чьей подачи мы дожили до того, до чего дожили. В стране 9 миллионов человек – дисциплинированных, образованных, талантливых. А жить нормально не можем. Выживаем, перебиваемся, терпим, ждем чего-то... Чего ждем? И на кой ляд нам такое спокойствие?!

## Усе на суботнік!



Калі ж прыбяром гэтае бервяно?

РЕАЛИИ

## На 15 тысяч?

*С 1 апреля в Беларуси увеличатся пенсии военнослужащих.*

Повышение связано с тем, что установлен новый размер базового оклада действующих военных. Раньше он был (с 1 января по 31 марта 2016 г.) 1 миллион 320 тысяч, а с 1 апреля стал 1 миллион 340 тысяч. А при перерасчете пенсий военных пенсионеров учитывается даже такое незначительное повышение окладов. Основанием для перерасчета трудовых пенсий по возрасту, как известно, является увеличение зарплаты работников по стране на 15 процентов.

Но понятно, что разница в базовом окладе военных в 20 тысяч не сильно отразится на пенсионном пособии – пенсии военных станут больше незначительно.

– Если базовый оклад вырастет на 20 тысяч, то максимальная пенсия – на 75 процентов от этой суммы, – говорит военный пенсионер, полковник в отставке **Леонид Спаткай**. – То есть получается, что в среднем тысяч 15 добавят военным пенсионерам.

Хочу отметить, что пенсии военных существенно не повышались уже несколько лет. Последний раз – в сентябре прошлого года. И то вряд ли можно это назвать серьезным повышением. Добавили к пенсии 100–150 тысяч.

**– Но вам, военным, грех жаловаться, если сравнить вашу пенсию и пенсию по возрасту...**

– Ошибочное мнение, что все бывшие военные имеют большие пенсии. У прапорщика сегодня пенсия два-три миллиона. У капитана – миллиона четыре. Я выходил на пенсию из центрального аппарата, имея максимальную выслугу, пенсия у меня сегодня 6 миллионов 200 тысяч. Вроде бы и немало, но до пенсии депутата или бывшего руководителя Минской области Батуры ох как далеко!

На что я хотел бы обратить внимание: пенсии военных зависят не только от выслуги лет, но и от окладов по воинским званиям и должностям. А какие сегодня зарплаты в армии? 12 миллионов у командира части, на шее у которого, грубо говоря, сидит 3 тысячи человек, и за каждого солдата он несет персональную ответственность. А теперь сравните эту сумму с зарплатой директора убыточного завода. При начислении его зарплаты используется восьмикратный коэффициент от средней зарплаты по заводу. Т.е. если средняя зарплата по заводу 5–6 миллионов, то у директора 40–48 миллионов. Поэтому военные, как только исполняется 45 лет, из армии увольняются. А если бы денежное содержание было выше, то и пенсионный возраст повышать не надо было бы. При хорошей зарплате служили бы в армии и до 60 лет. Потому что действительно 45–50 лет – расцвет для мужчины.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

НУ І НУ!

## Вася ідзе на футбол...

*Брэсцкі аматар футбола вырашыў пехатой дабрацца да Маладзечна, каб наведаць футбольны матч.*

Вядомы балельшчык брэсцкага "Дынама", які атрымаў прозвішча "Вася-пешаход", адправіўся ў чарговы паход – на гэты раз на матч любімага клуба з "Іслаччу", які адбудзецца ў Маладзечне 30 красавіка.



Адлегласць у 390 кіламетраў Вася збіраецца прайсці за 9 дзён.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**З 20 красавіка па 20 мая – месячнік пашырэння кола падпісчыкаў "Народнай Волі". Калі кожны з Вас, падпісчыкаў, і ўсіх, хто рэгулярна набывае газету ў шапіках, далучыць да «Народнай Волі» хаця б аднаго чалавека – нас адразу стане на дзясяткі тысяч болей.**

ЧУЛІ?

## Суд прызнаў экстрэмісцкімі кнігі Пазьняка

*Днямі суд Маскоўскага раёна Брэста прызнаў экстрэмісцкай літаратурай кнігу Зянона Пазьняка «Добрая фатаграфія», а таксама напісаную Зянонам Пазьняком і Валерыем Буйвалам кнігу «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял».*

Нагадаем, што кнігі мытнікі забралі на беларуска-польскай мяжы ў адказнага сакратара Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ Алеся Чахольскага 27 верасня мінулага года. Кнігі ён набыў у адной з варшаўскіх кнігарань – там яны прадаюцца свабодна. Экспертная камісія Брэсцкай вобласці па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі знайшла ў гэтых кнігах прыкметы праяў экстрэмізму.

Чахольскі дамагаўся, каб рашэнне экспертнай камісіі было адменена і яму вярнулі забраныя кнігі. Ён лічыць, што гэта палітычная справа, і мае намер абскарджваць цяперашняе судовае рашэнне аб прызнанні экстрэмісцкімі кніг «Добрая фатаграфія» і «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял».

Кніга «Добрая фатаграфія» – зборнік эсэ пра фатаграфіі, знятыя ў краінах Еўропы і Амерыкі з сярэдзіны XIX стагоддзя і да нашых дзён. Кніга «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял» – зборнік артыкулаў, успамінаў і фотаздымкаў.

ЦЫТАТНІК

## Пра што Аляксандр Лукашэнка ўчора распавядаў у парламенце?



### Пра эканоміку

– У гэтым годзе давядзецца ўціснуцца ўсім... Выдаткі на вытворчасць прадукцыі павінны быць зніжаны на 25 працэнтаў... 2016 год стане экзаменам для ўсіх галін улады.

### Пра Расію

– Расія – наш саюзнік, партнёр. І ў Расіі некаторым трэба спыніцца казаць, што ў нас тут мяккая беларусізацыя, нейкі паварот. Мы былі і будзем братамі. Перада мной еўрапейцы і амерыканцы такога не ставілі: ці вы з Захадам, ці з Расіяй. А ў Расіі многія ставяць.

Я хачу сказаць расійскаму кіраўніцтву, што мы ніколі не будзем хлопчыкамі на пабягушках. Я не разумею, чаму многія ў Расіі на гэтым зацыкліваюцца. Мы адзін народ. Мы не вернемся да тых нацменаўскіх часоў, калі глядзелі, колькі ў беларусаў рускай крыві.

Мы ніколі не будзем жыць па-за славянскім светам, які стварылі рускі, беларус і ўкраінец.

### Пра адносіны з Захадам

– У нас нейкі новы этап у адносінах з Захадам наступіў. Я б яго ахарактарызаваў – нейкай "гаварыльні". Вось не загаварыць бы гэты нармальны працэс. Калі мы згубім з Захадам тэмпы нашых адносін, то мы перастанем быць цікавыя адзін аднаму...

### Пра ваенныя канфлікты

– Мы гатовы да ўжывання ваеннай сілы як да падаўлення знешняй пагрозы, так і нейтралізацыі ўнутранага ўзброенага канфлікту. Мы гатовы ўжываць ваенныя сілы супраць пагроз гібрыдных войнаў і каляровых рэвалюцый. Створаны сілы тэрытарыяльнай абароны, і яны маюць самыя дасканалыя сістэмы ў свеце і ўзброеныя самай сучаснай зброяй.

Калі мы кажам пра ўнутраны канфлікт, то маем на ўвазе не тое, што народ выйдзе супраць улады. Унутраны канфлікт магчымы толькі пры падтрымцы знешніх сіл.

### Пра баевікоў з Данбаса

– Мы гатовы на любыя мерапрыемствы ў імя супрацьстаяння тэрарызму. У тым ліку каб супрацьстаяць баевікам з Данбаса. Расія нас крытыкуе, што мы перaследуем апалчэнцаў. Украіна нас крытыкуе, што мы праследуем тых, хто за іх ваюе. А яны для нас аднолькавыя. Не трэба нас крытыкаваць. Гэтыя людзі ваяваць ужо лепш умеюць, чым на заводзе працаваць. Ім такім чынам прасцей грошы зарабіць, чым працуючы на заводзе. Страшна, што там рыхтуюцца баевікі, якія могуць прымяніць свае веды ў тым ліку і ў Беларусі. Але ў нас ёсць годныя падраздзяленні, і мы жартаваць не будзем. Мы не настолькі вялікія дэмакраты, як у Нарвегіі. Брэйвік звярнуўся ў суд і выйграў 40 тысяч долараў... А камера ў яго, як кватэра.

### Пра арышты бізнесменаў

– Кажуць: «Кагосьці затрымалі, арыштавалі бізнесмена. Хутка прыйдуць іншых арыштоўваць». Безумоўна, прыйдуць! Калі вы будзеце абдзіраць дзяржаву і не плаціць падаткі. І скажыце дзякуй, што вы яшчэ не ў Амерыцы. Галоўнае – выплата падаткаў. І можаш спакойна спаць, можаш не спаць – гэта тваё права. Але аддай тое, што ты павінен аддаць дзяржаве.

### Пра павышэнне пенсіённага ўзросту

– Розныя варыянты разглядаліся. Тым не менш вырашылі паступова павышаць. У дадзеным выпадку не важна, на 5 гадоў мы павысім або на 3 гады. Розніцы няма з пункту гледжання напаўняльнасці бюджэту і з пункту гледжання ўзроставага ўзроўню нашага насельніцтва. Некаторыя нашы альтэрнатыўшчыкі не заўважылі, што закрануты не толькі пенсіённы ўзрост. Мы будзем захоўваць салідарную пенсіённую сістэму, але і развіваць назапашвальную сістэму. Мы захавалі гэтую аснову, каб людзі з голаду не паўміралі.

### Пра дзяцей

– Што грэх таіць, некаторыя сем'і, і шматдзетныя сем'і, нарадзіўшы траіх-чацвярых, кажуць: «Гэта Лукашэнкі дзеці. Няхай ён імі займаецца». Не, дарагія мае, я гатовы падставіць плячо. Трэцяе, чацвёртае – сапраўды мае дзеці. Я мушу ім дапамагаць, як і першым і другім. Але клопат пра дзяцей перш за ўсё праходзіць праз сям'ю.

### Пра чэргі ў паліклініках

– У паліклініках не павінна быць чэргаў. Трэба завяршыць інфарматызацыю рабочых месцаў урачоў для ўкаранення тэхналогіі электроннага рэцэпта і пераходу на электронныя карткі пацыента.

### Пра ўвядзенне рэлігійнай адукацыі ў школах

– Я гэтага рабіць не буду. Дай Бог нашым суседзям і іншым краінам такой талерантнасці, як у нас. Мне ўсе гэта кажуць... І праваслаўныя, і каталікі, і мусульмане, і іудзеі... Увядзём мы навучанне ў школе праваслаўнае, а што мне скажуць каталікі, мусульмане?.. Вось тут мы створым сабе праблемы на роўным месцы.

### Пра адукацыю

– Трэба выхаваць, нарадзіць новага настаўніка. Нарадзіць новых – гэта доўга. Таму нараджаць будзем, перарабляючы старое настаўніцтва. Трэба ўскалыхнуць нашага настаўніка...

І мне, і вам трэба часцей бываць у ВНУ, дзе рыхтуюць кадры. Прабачце, цяпер там учарашні дзень! Як былі жоўтыя канспекты і закасцянелыя погляды – гэтак і застаюцца.

### Пра тое, як змяніць вобраз жыцця

– У насельніцтва неабходна сфарміраваць навыкі культуры здароўя, пачынаючы з вобраза жыцця, правільнага харчавання, адмовы ад курэння і алкаголю... Ну, не зусім, натуральна, а то піць перастанем – гора іншае будзе. А вось курыць – гэта вар'яцтва.

У ДОБРЫ ШЛЯХ!

## Дзмітрый Піневіч даў наказ маладым...

У медыцынскіх універсітэтах краіны прайшло размеркаванне выпускнікоў. Будучыя ўрачы не без дапамогі адміністрацыі вызначыліся з першым месцам працы.

У Мінскім медуніверсітэце на размеркаванні прысутнічаў першы намеснік міністра аховы здароўя Дзмітрый Піневіч. Працэдура праходзіла зладжана, размова з кожным студэнтам доўжылася не больш за 2 хвіліны. Як падкрэслілі ў рэктараце, гэта стала магчымым дзякуючы падрыхтоўцы, праведзенай супрацоўнікамі дэканатаў. За месяц да размеркавання ўсіх выпускнікоў азнаёмілі з вакансіямі, якія прадставіла Міністэрства аховы здароўя.

Дарэчы, БДМУ сёлета выпусціў 1078 маладых спецыялістаў – выпускнікоў 5 факультэтаў. 200 маладых урачоў, якія скончылі лячэбны факультэт, будуць працаваць у Мінску. У сталіцы засталіся і 118 маладых педыятраў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПЕРЕД СОБЫТИЕМ

## Влад Хандогий замахнулся на Yamaha

*В числе лучших молодых пианистов он будет бороться за Гран-при на новом международном конкурсе*



Пианист-вундеркинд Влад Хандогий, обладатель главной премии XV Международного телевизионного конкурса «Золотой Щелкунчик», замахнулся на новый Гран-при, эквивалентом которого станет великолепный рояль Yamaha AvantGrand, мечта любого музыканта.

В последний день апреля в Москве открывается грандиозный смотр молодых талантов – первый Международный конкурс Grand Piano Competition. В состязании примут участие лучшие пианисты мира в возрасте от 11 до 16 лет. Из 18 стран поступило более сотни заявок. Международное жюри выбрало всего 15 финалистов, которые поборются за звание лауреата. В числе избранных – учащийся белорусского республиканского музыкального колледжа по классу фортепиано Влад Хандогий. Преподаватель пианиста-виртуоза Ирина Юрьевна Семеняко.

Вечер-открытие конкурса обещает стать запоминающимся – за дирижерский пульт симфонического оркестра встанет маэстро Валерий Гергиев. А прославленный пианист-виртуоз Денис Мацуев для примера молодым дарованиям и для их вдохновения исполнит Концерт №2 для фортепиано с оркестром Сергея Прокофьева. Этот конкурс, собственно, и был учрежден по инициативе Дениса Мацуева.

Пятеро участников получат почетные награды, а единственный лучший – Гран-при.

**Виктория ДРОЗД.**

ВІНШУЕМ!

## Алёна Чухнова скарыла Паўночную Карэю



Паветраная гімнастка на палотнах, якая выступае ў трупе Беларускага дзяржаўнага цырка, заваявала Залатую ўзнагароду 30-га Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Красавіцкая вясна». Ён праходзіць раз у два гады ў Пхеньяне, сталіцы Карэйскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі. «Красавіцкая вясна» прымеркавана да нацыянальнага свята КНДР – гадавіны з дня нараджэння заснавальніка і першага прэзідэнта краіны **Кім Ір Сена**.

Узнагароду **Алене Чухновай** уручыў міністр культуры КНДР.

Праўда, беларуска адчула ўсю атмасферу, уласцівую самай аўтарытарнай краіне свету. На канцэрце, прымеркаваным да закрыцця фестывалю, гучалі "Песня пра палкаводца Кім Ір Сена" і "Жаданне народа" пра сённяшняга лідара КНДР **Кім Чэн Ына**.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

